# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 5 (884) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 4 ЛЮТАГА 1973 г. ЦАНА 60 гр.




У сярэдзіне прадпрыемства. Фота Р. Сянько

## САКОЛЬСКАЯ „СТАЛЯРКА"

У канцы чэрвеня мінулага года Беласточчына пабагацела на яшчэ адзін прамысловы аб'ект — прадпрыемства будаўнічай сталяркі (ЗСБ) у Саколцы, абсталявана найбольш сучасным машынным паркам. Новае прадпрыемства прадукуе ў асноўным вокны і дзверы на патрэбы будаўнічых прадпрыемстваў у Беластоцкім, Ольштынскім, Варшаўскім і Люблінскім ваяводствах. Ужо ў першыя месяцы існавання сакольскае прадпрыемства выпусціла 50 тысяч квадратных метраў будаўнічай сталяркі. Працуе тут каля 650 асоб, але неўзабаве, калі закончацца ўсе мантажныя працы і ўсе машыны пойдуць на поўны ход, будзе іх удвая больш. У гэтым годзе прадпрыемству пад сілу ўжо будзе даць прадукцыю ў 800 тысяч квадратных метраў сталяркі багатага асартыменту. Гадавой прадукцыі хопіць на забеспячэнне вокнамі і дзвярамі больш тысячы паціэтажных дамоў для 60 тысяч жыхароў. Сваімі вырабамі ЗСБ будзе ў будучыні забяспечваць таксама вясковае будаўніцтва. Вырабы з Саколкі нічым не ўступаюць найлепшым такога роду вырабам у краіне. Таму са збытам іх не будзе клопатаў. А да таго, як вядома, перад жыллёвым будаўніцтвам у нашай краіне шырокая дарога. Хатняй сталяркі трэба многа, многа...

Рабочы калектыў прадпрыемства вельмі малады. Яго сярэдні ўзрост 23—24 гады. Больш 70 прац. рабочых прыйшло сюды на працу з бліжэйшых і далейшых вёсак, але найбольш з самой Сакольшчыны. Тут (прафесіянальныя курсы праходзяць у Плоцку, Валаміне, Гажове) яны распачынаюць самастойнае жыццё. На сакольскім «сталярскім» прадпрыемстве гэта найчасцей іх першая праца. Тут наступае інтэграцыя людзей з рознага асяроддзя. Тут дастасоўваюцца людзі да сучаснага «варштату» працы, да працы ў завадскім цаху, тут цэментуецца рабочы калектыў. Амаль палавіну ўсіх працуючых на прадпрыемстве складаюць жанчыны. Працуе тут таксама шмат пазамясцовых рабочых. Для іх ужо будуецца другі гатэль, а жыллёвы кааператыў пастанавіў забяспечыць 150 рабочых кватэрамі.

У размове з дырэктарам прадпрыемства Тадэушам Дварчынскім, яго намеснікам Янам Туркам і рабочымі мы даведаліся, што тут створаны добрыя сацыяльна-бытавыя ўмовы. Ёсць сталовая на дзвесце месц, лекарскія кабінеты, гардэробы. Усюды цёпла, чыста, прыемна і ўтульна. Кіраўніцтва прадпрыемства намерана адкрыць клуб (не толькі працай жыць чалавеку!). Цяпер існуе тут 100-асабовая ЗМС-аўская арганізацыя, а неўзабаве пачнуць дзейнічаць спартыўныя секцыі, мастацкі і музычны калектывы.

— На маю думку, — гаворыць намеснік дырэктара інж. Ян Турэк, — наша прадпрыемства неабходна было б назваць імем слаўнага земляка Сакольшчыны, вялікага рэвалюцыйнага змагара Сяргея Прытыцкага. У нас знойдзецца таксама месца на куточак, прысвечаны яго памяці.

Саколка, спакойная да нядаўна, сёння ўжо як бы не тая. Прыбыло і яшчэ ўсё прыбывае тут інтэлігенцыі. А перш за ўсё маладых людзей. Яны ўводзяць сюды вялікае ажыўленне. Дык жадаем усім ім і маладому калектыву сакольскай «сталяркі» шырокай дарогі, дарогі без выбоінаў.

ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ



Прадпрыемства будаўнічай сталяркі ў Саколцы. Фота аўтара

## НА НІВЕ БГКТ

## У працавітым клімаце ІРЫ

У Дуброўскім павеце ляжыць вёска Крапіўна — адна з нямногіх тут вёсак з актыўнай дзейнасцю на ніве БГКТ. Гурток БГКТ налічвае 34 асобы, а чатыры далейшыя падпісалі нядаўна дэкларацыі аб уступленні ў гурток. У гуртку людзі рознага ўзросту і прафесій. Усе жыхары вёскі. Большасць — маладыя ад 18 да 25 год, але і пасля трыццаткі ёсць (гэта таксама маладыя!). Мужчыны і жанчыны, вучні сярэдніх школ з Дубровы. Беларусы і палякі, бо вёска мешаная.

Паўстаў гэты гурток БГКТ у Крапіўне тры гады таму назад. Прыйшлі сюды людзі, якія мелі ахвоту нешта рабіць, працаваць у згоднай групе. Гурток такую магчымасць ім даў. Старшынёй гуртка ў Крапіўне стала дзяўчына дысцыплінаваная і працавітая — Ірэна Макарэвіч, Шукалі мы яе ў роднай вёсці і ў роднай хаце. Засталі толькі бацькоў. Ветлівыя гэтыя людзі адразу пачалі размову пра вёску, пра гурток. Ад Ірынага бацькі даведаліся ўжо, што не застаўшы Іры, не можам таксама пагаварыць з яе намеснікам, «бо выйшла нядаўна замуж аж у Ляўкова». Як пазнаёмілася з хлопцам здалёка? На вяселлі!

Шукаючы Іры Макарэвіч, едзем у Ружанастоk, дзе працуе яна ў краме. Але ўжо ад бацькоў ведаем многае пра іх дачку. Што закончыла гандлёвую школу ў Сямяцічах, а цяпер завочна канчае эканамічны тэхнікум у Сувалках.

Ад самой Іры даведваемся, што сваю вандроўку ў свет ведаў яна не закончыць на гэтым тэхнікуме.

Працяг на стар. 4

16-годдзе сваёй дзейнасці Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы задакументавала асобнай кніжкай* на польскай мове, якая паявілася ў апошніх днях мінулага года. Патрэба апрацоўкі такога даведніка наспела ўжо даўно. Праўда, на старонках «Нівы» і ў паасобных «Беларускіх календарах», якіх ужо паявілася аж 17, знаходзіцца даволі багатая інфармацыя пра Беларускае таварыства.

Усе гэтыя матэрыялы паявіліся аднак на беларускай мове, што аўтаматычна абмяжоўвае круг іх чытачоў. Кніга, пра якую ідзе тут гутарка, запаўняе вельмі дакучлівую «белую пляму» на карце ведаў аб насельніцтве Польскай Народнай Рэспубліцы напярэдадні яе трыццацігоддзя.

Рэдакцыйная калегія ў «прадмове» заўважае, што яна *«хоча даставіць жменьку інфармацыі пра розныя галіны жыцця беларускай нацыянальнай меншасці, якая пражывае ў ПНР, і пра БГКТ, якое дзейнічае сярод гэтай меншасці».*

Адначасова гэтая «Прадмова» характарызуе шматлікія карысныя пераўтварэнні, якія ў гады народнай улады здзейсніліся ў тых раёнах Польшчы, дзе жывуць беларусы. Затым ведамы на Беласточчыне даследчык навейшай гісторыі гэтага кутка нашай краіны, дырэктар Дзяржаўнага архіва ў Беластоку, доктар Генрык Маецкі, праводзіць гістарычны агляд усіх тых падзей, якія можна і трэба аднесці да польскіх беларусаў. Ужо не першы раз гэты аўтар паказвае свету вялікі ўклад беларусаў у польскі рэвалюцыйны рух і ў барацьбу за станаўленне народнай улады. Прачытаўшы гэты агляд, няцяжка зразумець, што БГКТ з'яўляецца паслядоўнай наследніцай такіх прагрэсіўных і рэвалюцыйных беларускіх арганізацый, як «Грамада» і КПЗБ. Толькі яны мелі характар палітычных партый. Чым тады з'яўляецца БГКТ? На гэтае пытанне дае адказ Міхась Хмялеўскі — шматгадовы грамадскі старшыня Галоўнага праўлення БГКТ, у сваім артыкуле «Арганізацыя». Яго папаўняе Васіль Баршчэўскі, які даказвае, што мэты дзейнасці БГКТ і іншых агульнапольскіх грамадскіх арганізацый засупляюцца ўзаемна, што між імі існуе цеснае супрацоўніцтва, што няма зусім спраў супярэчлівых, што беларусы жывуць у поўнай згодзе з палякамі і іншымі нацыянальнасцямі.




Вельмі цікава апісала беларускі аматарскі мастацкі рух Вера Валкавыцкая, пра асветную дзейнасць сярод беларусаў расказаў Аляксей Карпюк, развіццё і сучасны стан беларускага школьніцтва падрабязна ахарактарызаваў куратар Беластоцкай школьнай акругі Эдвард Крынскі, пра беларускі літаратурны рух у Польшчы і пра выдавецкую дзейнасць БГКТ даведаемся з артыкулаў доктара Аляксандра Баршчэўскага, матэрыяльную культуру беларусаў, пражываючых у паўднёва-ўсходніх раёнах Беласточчыны, прадставіў на аснове экспанатаў, сабраных у беларускім этнаграфічным музеі ў Белавежы, Уладзімір Гацута. Музей гэты, што варта падкрэсліць, узнік выключна дзякуючы намаганням БГКТ. Навуковы супрацоўнік Варшаўскага універсітэта Анна Вагроўская знаёміць чытачоў з беларускімі гаворкамі на Беласточчыне, а галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі расказвае пра наш тыднёвік.

Яшчэ неабходна сказаць слова пра графічнае афармленне, пра якое клапаціўся Стэфан Рыбі. Гэта бадай што найлепш выдадзеная кніжка сярод тых, якія фірмавала дагэтуль БГКТ. Вельмі дбайна і трапна падабраны здымкі. Яны не толькі з'яўляюцца ілюстрацыяй тэксту, але перш за ўсё самастойна і змястоўна інфармуюць чытача. Каб яшчэ толькі работнікі друкарні паклапаціліся былі аб лепшай якасці сваёй працы.

У суме польскі чытач атрымаў даволі багаты і ўсебаковы матэрыял пра БГКТ і беларусаў у Польшчы. ВІКТАР РУДЧЫК

* BTSK. Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, s. 130. Wydawca Zarząd Główny BTSK. Nakład 8.000 egz., cena 10 zł.

# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### НАД СТОМЛЕНАЙ В'ЕТНАМСКАЙ ЗЯМЛЁЙ — МІР

27 студзеня гэтага года стаў днём распачынаючагася міру для стомленай в'етнамскай зямлі. У Парыжы падпісана пагадненне аб спыненні вайны.

Ад 1945 года была гэта вайна найстрашнейшая і найбольш бязлітасная, найбольш безсэнсоўная з безсэнсоўных. — В'етнамскі канфлікт, — гаворыцца ў заяве польскага ўрада, — атручваў міжнародную атмасферу.

Больш 12 год працягвалася агрэсія ЗША супраць в'етнамскага народа. Па абодвух баках загінула два мільёны салдат і 4 мільёны цывільных грамадзян. Матэрыяльныя страты цяжка палічыць.

Апрача «Пагаднення аб спыненні вайны і аднаўленні міру ў В'етнаме» падпісаны чатыры пратаколы. Датычаць яны спосабу рэалізацыі спынення агня, складу і паўнамоцтваў Міжнароднай камісіі кантролі і нагляду палонных ваенных і цывільных, а таксама размініравання партоў і водных шляхаў ДРВ.

Пратакол аб размініраванні прадбачвае, што ЗША ліквідуюць або абясшкодзяць усе міны, якія яны пакінулі на тэрытарыяльных водах, у партах і на водных шляхах Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

Пратакол, які датычыць ваеннапалонных і цывільных асоб, сцвярджае, што ўсе ваенныя ЗША і іншых краін, прабываючыя ў няволі, будуць перададзены амерыканскім уладам. Усе прабываючыя ў няволі салдаты в'етнамскіх узброеных сіл будуць перададзены двум бакам паўднёвав'етнамскім — кожнага салдата таму паўднёвав'етнамскаму баку, пад камандаваннем якога служыў.

Урачыстае падпісанне дакументаў усімі бакамі, якія ўдзельнічалі ў парыжскай нарадзе па В'етнаму, адбылося за круглым сталом у зале, у якой 18 студзеня 1969 года распачаліся чатырохбаковыя перагаворы па В'етнаму. Размовы паміж ДРВ і ЗША распачаліся год раней. Дакументы напісаны на двух мовах: в'етнамскай і англійскай і згодна з традыцыяй кожны подпіс быў роблены іншай ручкай.

Новая міжнародная камісія нагляду і кантролю складаецца з прадстаўнікоў чатырох дзяржаў: Інданезіі, Канады, Польшчы і Венгрыі. Агулам камісія будзе складацца з тысячы чалавек.

Яшчэ некалькі слоў пра паўднёвы В'етнам. Амерыканская статыстыка падае, што вайна гэта пачалася 13 год таму назад. Аднак фактычна першыя выстралы наступілі тут амаль адразу пасля заканчэння Жэнеўскай канферэнцыі. Можна гаварыць, што тут вырасла цэлае пакаленне людзей, якія ведаюць толькі вайну. Афіцыйныя даныя гавораць, што за гады вайны ў паўднёвым В'етнаме была забіта 181 тысяча сайгонскіх салдат, а каля 0,5 мільёна выключана з прычын паранення.

(АК)



## БССР

### ГАТОВЫ ДА ВЯСНЫ

Механізатары калгаса «Ленінскі» Слуцкага раёна завяршылі ўжо падрыхтоўку сельскагаспадарчай тэхнікі да веснавой сяўбы. Спраўныя ўсе 32 трактары, больш 50 плугоў і іншых спадарожных прылад. Добра праходзіць падрыхтоўка да вясны і ў іншых гаспадарках раёна.

### З'ЕЗД МАСТАКОЎ

У Мінску ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся IX з'езд мастакоў Беларусі. Сабраліся майстры выяўленчага і прыкладнога мастацтва, прадстаўнікі іншых творчых саюзаў БССР, госці з Масквы і брацкіх рэспублік. Ішла творчая гутарка аб ролі беларускага мастацтва ў разгорнутым камуністычным будаўніцтве.

### АНСАМБЛЬ «МАЛАДОСЦЬ»

Народны самадзейны калектыў песні і танца «Маладосць», які існуе ў Віцебску, быў нядаўна адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі.

На гэтую ўзнагароду калектыў заслужыў плённай працай. Песні і танцы ў яго выкананні ведаюць не толькі ў многіх гарадах і вёсках Беларусі. Канцэрты «Маладосці» паспяхова праходзілі ў Маскве, у Смаленскай і Пскоўскай абласцях, на эстрадах Прыбалтыкі і ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы.

### НОВАЯ КАМЕДЫЯ МАКАЁНКА

Выдатны беларускі драматург Андрэй Макаёнак з'яўляецца аўтарам вядомых у цэлым Савецкім Саюзе п'ес: «Калі ласка», «Лявоніха на арбіце», «Трыбунал» і іншых.

Нядаўна напісаў ён новую п'есу «Таблетку пад язык». Жанр яе вызначыў як «камедыя-рэпартаж». Гэты твор выклікаў таксама вялікае зацікаўленне. Яго ў адрэзках друкавала найперш газета «Звязда» а поўны тэкст змяшчае студзеньскі нумар журнала «Полымя».

Камедыя-рэпартаж «Таблетку пад язык» расказвае пра штодзённыя справы сучаснай беларускай вёскі і смела раскрывае ды высмейвае — гэта правіла ў творах Макаёнка — розныя хібы, якія перашкаджаюць у камуністычным будаўніцтве.

### КРЫТЫЧНАЯ АЦЭНКА

Пра польскую анталогію беларускай паэзіі, якую падрыхтаваў лодзінскі літаратар Ян Гушча, паведамлялі мы чытачам «Нівы» ўжо даўно. Сёння адзначым, што студзеньскі нумар беларускага часопіса «Полымя» змяшчае вялікую (10 старонак друку) рэцэнзію Уладзіміра Калесніка, у якой грунтоўна ацэньваецца зборнік «Беларускія вершы». Аўтар рэцэнзіі выказвае ўдзячнасць Яну Гушчу за каштоўную ініцыятыву і вялікую работу пры апрацоўцы анталогіі. У рэцэнзіі знаходзім многа цікавых (і крытычных) заўваг аб паасобных перакладах беларускіх вершаў і аб падборцы твораў да зборніка. Ул. Калеснік канчае свой крытычны агляд анталогіі меркаваннем, што творчая польска-беларуская дружба мае шырокія перспектывы развіцця і паглыблення свайго зместу і якасці.



## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

23 студзеня адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім разглядаліся праблемы, звязаныя з прадукцыяй новых трактараў і іншых сельскагаспадарчых машын, былі прааналізаваны і прыняты рашэнні студзеньскай нарады палітычнага і гаспадарчага актыву, а таксама была абмеркавана справаздача старшыні Рады Міністраў ПНР П. Ярашэвіча аб візіце ў Індыю.

Прызнана, што вынікі праведзеных размоў і заключаных дагавораў маюць вялікае значэнне для замацавання дружалюбных адносін паміж Польшчай і Індыяй, а таксама для развіцця супрацоўніцтва ў галінах гаспадарчай, навукова-тэхнічнай і культурнай.

### ПАСЯДЖЭННІ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

19 студзеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім былі разгледжаны справы, звязаныя з паляпшэннем інвестыцыйнай дзейнасці ў гэтым годзе і на наступныя гады. Была абмеркавана таксама магчымасць лепшага прыстасавання нашага гандлёвага флоту для перавозкі нафты. На заканчэнне Прэзідыум урада прыняў праект пастановы аб утварэнні Бюро атамнай энергіі, паколькі зараз з году ў год наша гаспадарка ўсё больш карыстаецца з атамнай энергіі.

✵

26 студзеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім былі абмеркаваны справы ўдасканальвання фінансавай сістэмы асноўных галін прамысловасці і праблемы паляпшэння адміністрацыйнай працы.

### ПАСЯДЖЭННЕ СЕЙМА ПНР

Апошняе пасяджэнне Сейма ПНР прысвячалася галоўным задачам сельскай гаспадаркі і спажывецкай прамысловасці ў 1973 годзе.

### ВІЗІТ ПОЛЬСКАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ Ў ЧЭХАСЛАВАКІЮ

Польская дэлегацыя на чале з I сакратаром ЦК ПАРП Э. Геркам і старшынёю Рады Міністраў П. Ярашэвічам наведала Чэхаславакію, дзе правяла сустрэчы з прадстаўнікамі найвышэйшых адміністрацыйных і партыйных улад Чэхаславакіі. Галоўнай тэмай праведзеных размоў былі праблемы супрацоўніцтва двух братніх партый і краін, а таксама магчымасці яго далейшага пашырэння.

### НАРАДА ГАНАРОВАГА КАМІТЭТА ГОДА ПОЛЬСКАЙ НАВУКІ

24 студзеня адбылася ў Варшаве з удзелам найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад нарада ганаровага камітэта Года польскай навукі, якая прысвячалася арганізацыйным справам II кангрэса польскай навукі.

Старшыня арганізацыйнага камітэта гэтага кангрэса, акадэмік Тшэбятоўскі адзначыў, што вучоныя актыўна ўключацца ў рэалізацыю пастаноў VI з'езду партыі, якія вызначылі ролю і задачы для навукі ў сучасным будуючым сацыялізм грамадстве.

### ВІЗІТ Е. ФУРЦАВАЙ У ПОЛЬШЧЫ

Шэсць дзён прабывала ў нашай краіне міністр культуры СССР Е. Фурцава. Сустракалася яна з партыйнымі, дзяржаўнымі і культурнымі дзеячамі, а таксама знаёмілася з працай розных творчых аб'яднанняў. (яц)



## ВАЯВОДСТВА

### ПАВЯТОВЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

Адбыліся першыя ў ваяводстве справаздачна-выбарчыя павятовыя канферэнцыі ПАРП у Кольне, Лапах і Сакольцы. Была ацэнена дагэтуляшняя дзейнасць і намечаны планы на бліжэйшыя два гады. У кожнай павятовай канферэнцыі прымаў удзел адзін з сакратароў Ваяводскага камітэта партыі.

### ДЗЕНЬ ГАНДЛЁЎЦА

З нагоды свята працаўнікоў гандлю адбылася сустрэча I сакратара ВК ПАРП З. Куроўскага і старшыні Прэзідыума ВРН З. Спрыхі з прадстаўнікамі гандлёвых прадпрыемстваў.

### У БЕЛАСТОКУ БУДЗЕ ЗААПАРК

Прэзідыум ВРН пастанавіў, што беластоцкі заапарк будзе адкрыты на XXX гадавіну ПНР. Паўстане ён на базе існуючага цяпер невялічкага заапарка.

### НАРАДЫ ГМІННЫХ АКТЫВАЎ

Заканчваюцца нарады гміннага партыйна-гаспадарчага актыву. Адбываліся яны ва ўсіх новых гмінах і канцэнтраваліся перш за ўсё на праблемах сельскай гаспадаркі, яе дынамічнага развіцця, а таксама выкарыстання рэзерваў.

### НОВАЯ ГАСЦІНІЦА

Паводле карэспандэнцыі «Газеты Беластоцкай», вялікая сучасная гасцініца неўзабаве пачне будавацца ў Беластоку на вуліцы Мархлеўскага. Гэтак вырашыла спецыяльная нарада «Орбісу» ў Варшаве. Новая гасцініца будзе шасціпавярховая, з 145 пакоямі на дзве асобы, з 5 2-пакаёвымі апартаментамі. Адначасова змесціць яна 300 чалавек. У пакоях будуць ванныя і туалеты, тэлефоны, рознае электрычнае абсталяванне і сценныя схоўкі. Будзе клуб з кавай, зала для тэлевізара і ціхіх гульняў.

Гастранамічная частка гасцініцы гэта: рэстаран, кафейная, банкетная зала, начны рэстаран. Звонку, побач з гасцініцай пабудуецца паркінг для 150 аўтамашын і крыты хол для 30 аўтамашын. Аб'ект будзе мець найбольш сучасную сістэму кліматызацыі і вентыляцыі, а таксама атрымае першы ў краіне спецыяльнае абсталяванне для спальвання смецця. Кошт — каля 100 мільёнаў злотых. Будзе гэта апошні цуд будаўнічай тэхнікі!

### ЗАВОЧНА — МАГІСТРАМ

Ад новага школьнага года ў Беластоцкай вышэйшай настаўніцкай школе будзе праводзіцца 4-гадовае завочнае навучанне працуючых настаўнікаў на ступень магістра, а не, як дагэтуль, трохгадовае прафесіянальнае навучанне. Прымаць кандыдатаў будуць без экзаменаў, але на аснове апініі куратарыі.

### У ФАСТАХ

Адбылася тут канферэнцыя рабочага самаўпраўлення. Гаварылася пра дасягненні і будучыя планы прадпрыемства. Фасты будуюць цяпер у Доктарцах над Нарвай уласны дом адпачынку. На днях закончыцца будова свайго цэнтра аховы здароўя. Будуецца таксама жлобак і прадшколле. (вл)




NIEDZIELA 4.II.
7.40 Program dnia. 7.45. TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELERANEK. 10.25 „W obiektywie". 11.00 Gra Orkiestra Karpackiej Brygady WOP-u. 11.45 Dziennik. 12.00 Sportowy Magazyn sprawozdawczy. 14.10 Przemiany". 14.40 Dla dzieci: L. J. Kern — „Największy sukces mistrza Miguela" cz. I („Karampuk"). 15.05 „Piórkiem i węglem". 15.30 „Wielka gra". 16.20 „Nie każdemu stawiają pomnik" — rep. film. 16.50 Gra Orkiestra TV Katowice. 17.10 „Kryteria". 17.25 „Piramidy i papirus" — film szwedzki („Czas i ludzie"). 18.30 „Harenda — moja miłość" („Kobiety ich życia"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik 20.05 „Scheda" — film TVP („Chłopi") odc. XI. 20.55 PKF. 21.05 „Wielkie Variete" — program TV NRD. 22.30 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 5.II.
12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka — lekcja 1. 13.20 TV Technikum Rolnicze: Botanika — lekcja 1. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 TV Kurier Olsztyński. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Osborne — „Miłość i gniew". 21.35 „Spotkanie z pisarzem — Piotrem Wojciechowskim". 22.05 Dziennik. 22.25 „Słynne arie operowe".

WTOREK 6.II.
9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — J. Słowacki „Fantazy". 10.25 „Scheda" — film TVP („Chłopi") odc. XI. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.10 Program muzyczny. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Polityka dla wszystkich. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wielki Mc Ginty" — film fab. 21.25 „Kontakty". 21.55 „Canzonissima" — program rozr. wł. 22.35 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe i kronika Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie (pary sportowe — jazda obowiązkowa) (Kolonia). 23.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka — lekcja 1. 23.50 TV Technikum Rolnicze: Botanika — lekcja 1.

ŚRODA 7.II.
8.35 „Wielki Mc Ginty" — film fab. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „O jaką Polskę...". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „O cieple". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika — lekcja 2. 13.20 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin — lekcja 1. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 i 23.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender — Szkoła Jungów 2000". 17.10 Dla dzieci: „Małe kino". 17.35 „Informacje-Towary-Propozycje". 17.55 „Sylwetki X Muzy" — Zbigniew Zapasiewicz. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Postawy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Studio 63: M. Żuławski — „Orchidea" („Opowieści mojej żony"). 20.20 „Świat i Polska". 21.05 „Król pasterzy" — opera sielska w I akcie. 21.45 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (pary sportowe — jazda dowolna). 23.00 Dziennik.

CZWARTEK 8.II.
9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „W świecie atomów". 9.30 „Kolonia Lanfieri" — film fab. czechosł.-radz. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Staff-Leśmian-Tuwim". 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Język polski — „Telewizja". 14.00 Matematyka w szkole: „Przygotowanie pojęcia osi liczbowej" 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „ZSRR-50" — „Rosyjska SRR". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Lot 218 zagrożony" — nowela film. wł. 20.35 „Zagłębiowskie Trójmiasto". 21.05 „Ekspres nr 19". 21.35 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (jazda dowolna mężczyzn). 23.00 Dziennik. 23.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika — lekcja 2. 23.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin — lekcja 1.

PIĄTEK 9.II.
8.00 „Pod prąd" — film fab. węg. od lat 16. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Książka czy film". 10.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie techniczne — „W świecie sztucznych tworzyw". 11.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Przysposobienie obronne — „Pomoc porażonym bronią masowego rażenia". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia — lekcja 1. 13.20 TV Technikum Rolnicze: Język polski — lekcja 2. 15.20 i 23.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Piosenki w mundurze". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Za kierownicą". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Na lotnisku" — nowela film. radz. 20.30 „Panorama Tygodnia". 21.10 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (tańce). 23.00 Dziennik.

SOBOTA 10.II.
10.00 „Fortuna" — film TVP. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „W Australii". 14.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia — lekcja 1. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski — lekcja 2. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 „Telereklama". 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Kapitan Poloneza". 17.50 „Spotkania z przyrodą". 18.15 „Turystyka i wypoczynek". 18.25 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Fortuna" — film TVP. 21.10 Dziennik. 21.30 „Gallux show" — wieczór 6-ty. 22.30 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (jazda dowolna kobiet).

ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 2 lutego**

8.15 „Pamięć". Film. 9.45 Szkoła szachowa. 10.15 Film muz. 11.00 Program z Władywostoku. 14.15 Program dnia. 15.00 Wiersze poetów białoruskich. 16.10 Almanach TV. 16.40 Koncert. 17.30 Spektakl teatralny. 19.00 Czas. 19.30 c. d. spektaklu. 20.30 Hokej. „Spartak" (Moskwa) — SKA (Leningrad). 3 tercja.

**Sobota, 3 lutego**

8.15 Program literacki (Jakub Kołas). 8.50 Mozaika muzyczna. 9.00 Przegląd międzynarodowy. 11.30 Filmy animowane. 13.15 Spotkania muzyczne. 13.45 „Anna Karenina". Film fab. 1 seria. 15.00 W świecie zwierząt. 16.10 Ekran i czas. 17.00 Film fab. 18.40 Program sportowy. 19.00 Czas. 19.30 „Piosenka — 72". Festiwal TV.

**Niedziela, 4 lutego**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 10.00 Film animowany. 11.30 „Anna Karenina". Film fab. 2 seria. 12.45 Koncert życzeń. 14.00 Program muzyczny. Transmisja z Sali Kolumnowej. 16.10 Klub filmowy. 17.10 Program estradowy. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Program estradowy.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 169


* * *

о так закінуць  
зерне ў сэрца глебу  
каб колас з яго выцвіў раптам  
прышла з зямлі  
ці можа з неба  
і зерне кінулі украдкам  
і там дзе было пуста  
стала ройна  
і цесна каласам  
і цесна росам  
і да краёў надзеяю стаў поўны  
збан майго лёсу  
ты шчодрая дзяўчына ўраджаем  
словы твае не з літар  
але з зерняў  
у кожным коласе зямля іграе  
кантату — вернацьш  
дык будзем жыць  
і будзем хваляваццa  
снапу складаць язычаскія гімны  
зямля  
дзяўчына  
праца  
адно свитое імя

*Алесь Барскі*



## Чалавеча, заспявай пра чалавека!

*Заспявай*  
*мне*  
*песню вясёлу*  
*пра кветкі,*  
*сонца*  
*і неба,*  
*пра школу,*  
*працу*  
*і адпачынак.*  
*Заспявай*  
*пра жыццё*  
*чалавека;*  
*можа быць*  
*яно:*  
*смутнае,*  
*тужлівае,*  
*цяжкае,*  
*наведанае*  
*праз*  
*бяду;*

*можа быць:*  
*вясёлае,*  
*шчаслівае,*  
*лёгкае,*  
*як пяро.*

*Заспявай пра лёс*  
*чалавечы,*  
*пра адну*  
*сцяжынку,*  
*выбраную*  
*сярод*  
*тысяч*  
*дарог.*

*Заспявай*  
*проста*  
*пра чалавека,*  
*і тады*  
*злажу*  
*падзяку.*

Ніна Гаўрылюк



## Зямлі маёй краіны

*Мая душа ўзлясцела з той зямлі,*  
*Дзе пахне мёдам луг зялёнавокі.*  
*Мае імкненні выплылі з крыніц*  
*Блакітаў чыстых і лясоў высокіх.*  
*Дастаўшы волю з неабсяжных ніў,*  
*Залітых звонам залатых калоссяў,*  
*Я п'ю спакой з мядовых пахаў ліп*  
*І васількоў збіраю прагна просінь.*  
*Спякотным днём мне холад ручаёў*  
*Зямля падорыць з шумам стройных сосен,*  
*Падорыць думкі, распульсуе крой,*  
*Каб славіць будні барадой і вёсак.*

*

*Табе — зямля — у водары садоў,*  
*Глыбока ўплёўшы сочныя карэнні,*  
*Расце душа, расце мая любоў*  
*І б'ецца сэрца ў сонечных праменнях.*

*ЗОСЯ СТАСЬКЕВІЧ*

## У Грыбоўшчыну

У Грыбоўшчыну лесам: дрэвы і снег. Лес, з пацямнелаю душою на снезе безнадзеі. Смутак запоўз на верхавіны і па-савінаму сеў над дарогаю.

Іду трэцюю гадзіну. Без вёрстаў.

Наперадзе масток, ад якога паглядзела ўтульнасцю. Збудаванне, з якога доўга не зыходзіў. Унізе крыніца жывой вады, у ёй каменні з барodкамі водарасцяў і шэпт задаволенасці. Нешта такое, што жыве пацíху, нацягнуўшы на сябе (не з галавою) пухкую коўдру.

Зыйшоў я на бераг, падняў камень і кінуў яго ў празрыстую яміну. У цішыню. Ад таго пачуў затоенае дыханне за сабою і наперадзе, і з боку. Быццам пазяханне, перапыненае здзіўленнем. Дрэвы працерліся, закалыхаўшы галінамі. Лес прытамнеў.

З хмараў пасыпалася. Вецер падкошваў і завіруха мацнела.

Аслеплены, я пайшоў. Да Грыбоўшчыны зрабілася блізка.

*С. Яновіч*



*НА БЕЛЬСКАЙ ГАВОРЦЫ*



## Дорога до уподленя

Скажу ім...  
што ўжэ досыць,  
што то сьліпое коло

Тож воны усіэ  
п'яны

Кінь іх!  
До чорта з імі!

— Ніэ,  
ніэ,  
нэ хочу!  
Спасібо вам.

Але як жэш то выгледае!  
Што ж воны подумают о мніэ!

Зостану.  
Напішу у сэбе я в паміэнтнікові,  
што то  
для прубы.  
Бачыш скоштовала заказаного  
і собою зо-  
ста-  
лэ.

По петі такіх прубах  
Зачэпюсь о свое деціінство  
і плюну.  
— О, Божэ, на когож я плюну!

*Зося Сачко*

## ДАРЭМНА

Дарэмна вочы так глядзелі,  
Спавіты марамі глыбока.  
Усё, што блізкае мы мелі,  
Было ад нас цяпер далёка.

Дарэмна рук шукалі рукі,  
Былі халодныя далоні.  
Не выдавала сэрца стуку,  
Не пульсавала кроў у скронях.

Дарэмна вусны слоў шукалі,  
Каб цень надзеі ажывіці.  
Здаецца, просячы шапталі:  
Калі пакінуць — не забыці.

А постаць вольна адплывала  
І расплывалася ў тумане.  
Чаго з сабою не забрала,  
Са мной ніколі не застане.

Забуду радасці хвіліны,  
Усе падшытыя манаю.  
Жыцця шчаслівыя гадзіны  
Мяне паклічуць за сабою.

*Л. Танкевіч*

* * *

У яго  
Завялікія боты.  
Ён памыліўся —  
Купіў  
Боты  
На два размеры  
Завялікія.  
І ходзіць,  
І губіць іх.  
Часам лепш  
Купіць  
Замалыя боты.

*Надзея Артымовіч*



## КРЫК

*Хочацца крычаць*  
*супраць*  
*цэлага свету.*  
*Галасна,*  
*з усіх сіл*  
*закрычаць,*  
*засланіць*  
*расшыраныя здзіўленнем*  
*вочы.*  
*Крычаць,*  
*каб паверыць*  
***у праўду.***  
*Крычаць,*  
*каб паверыць*  
*у чалавека.*  
*Крык,*  
*здаецца такі*  
*магутны,*  
*разрывае грудзі*  
*з сілай такой,*  
*што чуць*  
*яго ўсюды павінна...*  
*аказаўся ціхім,*  
*маленькім —*  
*сіл яму не хапае,*  
*не пераступіць*  
*муроў няпраўды.*  
*А можа...*  
*Крычу*  
*яшчэ галасней.*  
*Крык трывожны*  
*з грудзей*  
*вырываецца.*  
*Ці чуць яго?*

Ірэна Баравік

## Вячэрні роздум

*La mort dans l'ame — Jean Paul Sartre*

Ціха ўсюды. Шэры вечар сеці  
Кінуў. Ноч у іх ужо ірвецца.  
Сумна мне. Няма спакою ў сэрцы.  
Цемнатою заварожан, паддаюся смерці.

І чую я, perpetuum mobile часціна,  
Знак запытання ў вечнасці бясконцай,  
І сын Гармоніі, сын Сонца,  
Як вырастае новае жыццё на маіх руінах.

А людзі, што праходзяць у маўчанні побач  
Мяне — ужо чвэрць чарвяка, паўдрэва ці мо камня,  
Не бачаць, як б'юся аб нябыт я лобам,  
Як прагна шчэ жыцця чапляюся рукамі.

Адно жыццё на ўсё жыццё — як гэтага нямнога!  
Таму усё у ім: дабро і зло, шаленства і асколкі веры.  
Праз гэта ціснем час ад Гамера да касмічнай эры.  
І, будучы амаль што богам, мы ўсё яшчэ — паўзверы.

*Ян Чыквін*



# ВЫХА-ВАЎ-ЦА



Дзень пані Веры Краўчук — настаўніцы беларускай мовы ў васьмікласнай школе ў Кленіках нельга назваць лёгкім: шэсць - сем урокаў у школе, а дома — муж і двое дзяцей. А калі і вяртаецца яна дамоў, то не заўсёды ўвесь вечар можа прысвяціць хатнім справам, бо і сшыткі праверыць трэба, і падрыхтавацца да ўрокаў і часам выхаваўчыя справы свайго класа ўладкаваць. Для мужа і сваіх дзяцей замнога часу не застаецца — усяго толькі, што дапільнуе, ці сытыя, чыстыя і да заўтрашніх заняткаў гатовыя.

Так ужо васемнадцаты год пані Вера дзеліць сваё сэрца паміж школай і домам. Але дзяліць яго не так і лёгка: сэрца з кожным годам становіцца ўсё слабейшае. Добра, што муж працуе фельчарам у кленіцкім асяродку здароўя. Калі што якое — першая медыцынская дапамога на месцы!

Свой прадмет пані Вера вельмі любіць. Гэтую любоў яна патрапіла перадаць і сваім вучням. Урокі беларускай мовы сталі ў кленіцкай школе самымі любімымі часінамі для дзяцей. Побач з іншымі формамі заняткаў настаўніца часта звяртаецца да лепшых твораў беларускай літаратуры. Чытаюць яны лепшыя апавяданні беларускіх пісьменнікаў, абмяркоўваюць прадстаўленыя ў іх жыццёвыя сітуацыі і паводзіны герояў, параўноўваюць жыццё ў мінулым з нашай сучаснасцю. Асабліва шырокую дыскусію выклікаюць такія творы, як «Міхаська» А. С. Пашкевіч — Цёткі, «На каляды к сыну» З. Бядулі, «Васількі» М. Лынькова, а таксама творы, змешчаныя ў «Вясёлцы», «Бярозцы», «Зорцы». Словам, любяць кленіцкія вучні падыскутаваць на ўроках роднай мовы і пра даўнейшае і пра сённяшняе. Пад умелым кіраўніцтвам вопытнай настаўніцы В. Краўчук гэтыя заняткі адначасова з пазнавальнай функцыяй выконваюць вялікую выхаваўчую ролю.

Гэтая вялікая ўвага, якую звяртае В. Краўчук на выхаваўчую працу з вучнямі ў школе, знайшла выраз і ў яе грамадскай працы куратара над малалетнімі парушальнікамі права. Да гэтых цяжкіх і адказных абавязкаў паклікаў яе Ваяводскі суд для няпоўналетніх у Беластоку.

Сярод падапечных В. Краўчук былі пераважна хлопцы школьнага ўзросту, што сталі перад судом за розныя пакражы. Часцей за ўсё сышлі яны на шлях праступнасці з-за безадказнасці бацькоў за лёс сваіх дзяцей. Так, напрыклад, адзін з іх украў чаравікі ў краме толькі таму, што яго бацька — скнэрлівы, хоць і даволі заможны чалавек — шкадаваў сыну грошай на абутак. Для іншых таксама бацькі не давалі добрага прыкладу сваімі паступкамі і не звярталі ўвагі на тое, што робяць дзеці. А нават падхвальвалі, калі дома паявілася нейкая чужая ўкрадзеная дробязь. І так пайшло: ад раменьчыка да коніка.

В. Краўчук заўважае, што і празмерная ды дрэнна зразумелая чуллівасць бацькоў да дзяцей нярэдка прыносіць трагічныя вынікі. Так было ў выпадку, калі маці і бацька дазвалялі свайму малалетняму сыночку-любімчыку на ўсё: браць без дазволу грошы з дому, валачыцца немаведама дзе, піць віно і гарэлку. І «любімчык» вырас на звычайнага злачынцу.

Усіх сваіх падапечных (за выключэннем аднаго), а было ўжо іх мнагавата, В. Краўчук вывела на правільную жыццёвую дарогу. Яны нядрэнна закончылі завадовыя або нават і сярэднія школы, спраўна служылі ў арміі, цяпер жа занялі нармальнае месца ў нашым грамадстве.

Так. Балючае, але высакароднае сэрца ў пані Веры Краўчук.

*Мікалай Гайдук*

## ЧАМУ ЗАКРЫЛІ КРАМУ?

Новы 1973 год для сялян вёскі Тапаляны, Беластоцкага павету пачаўся не зусім добра.

Прадаўшчыца, якая дагэтуль працавала ў тапалянскай спажывецкай краме, даўно ўжо склала ў кіраўніцтве ГС-у ў Міхалове прашэнне аб звальненні яе з працы. Праходзілі тыдні і месяцы, але міхалоўскі ГС не паклапаціўся пра тое, каб знайсці новую прадаўшчыцу. І вось 30 снежня 1972 года закончыўся акрэслены ўмовай час працы прадаўшчыцы, прыехала гэесаўская камісія, зрабіла пералік астаўшыхся ў краме тавараў, пагрузіла іх у машыну, замкнула на два замкі краму ў Тапалянах і паехала сабе, задаволеная, у Міхалова. Словам, бывайце здаровы, Тапаляны! А тапалянцам зусім ад гэтага пажадання нездаровіцца, бо да бліжэйшай крамы ў Подварках ці ў Міхалове 6—8 кіламетраў. І цяпер па кілаграм цукру ці бутэльку алею трэба ехаць ПКС-ам ці фурманкай і траціць на кожную дробязь цэлы дзень!

Не парадаваў міхалоўскі ГС жыхароў Тапалян сваёй абяцанкай пабудаваць новую краму ў іх сяле. Праўда, 9 студзеня гэтага года будаўнічае прадпрыемства з Сямяціч прывезла ў Тапаляны крыху дошак і іншых будаўнічых матэрыялаў, але заканчэння пабудовы няма чаго і спадзявацца раней, як навесну! Затым тапалянцы хацелі б, каб гэтая новая крама мела таксама аддзел з найбольш патрэбнымі ў сельскай гаспадарцы таварамі, запаснымі часткамі да машын і прыладамі. Ці пра гэта падумаў міхалоўскі ГС? У Тапалянах пра гэтую справу нават солтыс Вінцэнт Рутkоўскі нічога не можа сказаць...

Ой, гандлёўцы з Міхалова, папраўцеся! (іс)

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ВЯСЕЛЬНАЯ

Moderato

Я й у ма-монь-кі віш-ня, Я й у ма-монь-кі віш-ня.

Од-да-еш мэ-нэ ў чу-жу сто-ро-ну, дэ я жы-ті нэ пры-вык-ша.

Я й у мамонькі — вішня,
Я й у мамонькі — вішня.
Оддаеш мэнэ ў чужу сторону,
Дэ я жыті нэ прывыкша.
Оддаеш мэнэ ў чужу сторону,
Дэ я жыті нэ прывыкша.
Ой, прывыкша, нэ прывыкша —
Прывыкаті я й мушу,
І старэнькому і маленькому
Догоджаті я й мушу.
І старэнькому і маленькому
Догоджаті я й мушу.
А коб я й мела крыла
Шчэй умела ліетаті,
Поліетела б до родной мамонькі
Свое горэ росказаті,
Поліетела б до родной мамонькі
Свое горэ росказаті.
Спомінай мэнэ, мамо,
З поніеделка на ўторок,
А я свою ды родну мамоньку —
То й на дэнь разы сорок,
А я свою ды родну мамоньку —
То й на дэнь разы сорок.
Спомінай мэнэ, мамо,
Всюду добрымі словамі,
А я свою родну мамоньку —
Всюду горкімі слезамі.
А я свою родну мамоньку —
Всюду горкімі слезамі.

Песня спяваецца вясельнікамі ў часе ад'езду маладой пары да дому маладога.

Ад Марыі Парфенюк, 1951 года нараджэння, Ані Грыгарук, 1945 года нараджэння, і Ніны Грыц, 1952 года нараджэння, вёска Кленікі Гайнаўскага павету, запісаў 15 лістапада 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

## І ТАК БЫВАЕ...

### ЛЮДЗІ ДОБРЫЯ І НЯДОБРЫЯ

Пагода псулася з гадзіны на гадзіну. Дзьмуў халодны студзеньскі вецер, замець заносіла дарогі. У такі дзень у Міхася Астроўкі з Трасцянкі два гады таму назад моцна захварэла васьмімесячная Тамарка — вялікая, чаканая радасць бацькоў, якая хутка расла і была на дзіва разумнай і мілай. Бацька апоўначы паехаў у лес па дровы. Маці Тамаркі з цяжкасцю дазванілася да хуткай дапамогі ў Гайнаўцы. Хуткая дапамога прыехала няхутка, але, не аказаўшы сапраўднай дапамогі, хутка ад'ехала. Мо баялася, што ўгразне ў снягу, мо думала, што гадзіны жыцця Тамаркі ўжо палічаны. Хто яго ведае, як там было, але Тамарку ў бальніцу не ўзялі. Маці заламвала рукі, з нецярпеннем чакала бацькі з лесу.

А бацька, быццам пячонкаю адчуваў, што ў хаце бяда, нешта яго мучыла і таму ён спяшаўся дахаты, паганяючы пугаю каня. Заехаўшы на панадворак, не распрагаючы каня, пабег у хату. Убачыў Тамарку, яе ўздуты жывоцік. Праз нарваўскую міліцыю дазваніўся да Гайнаўкі, да хуткай дапамогі, пасля да санітарнай самалётнай абслугі ў Беластоку, дзе яму сардэчна сказалі аб неабходных лекарскіх фармальнасцях у гэтай справе. Нічога не ўдалося ўладзіць.

Тады стаў ён перапыняць легкавыя машыны, якія праходзілі праз Трасцянку і маліць людзей, каб завезлі яго дзіцё ў гайнаўскую бальніцу. Але людзі былі нячулыя. Чужая бяда была ім не бяда.

Страціўшы ўсялякую надзею на людское сэрца, Міхась Астроўка запрог каня і з жонкаю па грумаках снегу пачаў праз Анцуты прабірацца да Нарвы. За Анцутамі конь «утапіўся» ў снягу. Была ноч, але жыхары вёскі адкапалі са снегу сані, і як маглі, дапамагалі дабрацца Астроўкам да Нарвы да лекара. У лекара Тамарка яшчэ ўсміхалася, быццам хацела адхіліць слёзы ад бацькоў, нешта па-свойму гаварыла. Памерла на руках у бацькі.

⁂

У 42 дні пасля смерці Тамаркі зноў быў дзень са сняжыцай. Каля Трасцянкі загразла ў снягу хуткая дапамога з Беластока, якая выклікана была да парадухі. Міхась Астроўка дапамог выбрацца са снегу ў адным месцы, затым у другім. Пасля ў сельгасгуртку папрасіў трактар, званіў у Нарву, усё зрабіў, каб жанчыну завезлі ў бальніцу. Толькі дзякуючы Міхасю Астроўку жыццё жыхаркі Нарвы і яе нованароджанага дзіцяці было выратавана. Прозвішча яе Кучэўская.

⁂

На жаль, так яшчэ бывае: калі чуем мы, што п'яны сусед здзекваецца над жонкай і дзяцьмі, мы шчыльна закрываем вокны. Калі з-за чаго-небудзь у суседняй сям'і даходзіць да трагедыі, мы не ўмешваемся. А калі ж гэта датычыць нашых блізкіх, мы востра выступаем супраць тых, што ведалі аб гэтым і маўчалі. Калі бачым мы, што на вуліцы б'юць нязнанага чалавека, мы хутка пераходзім на другі бок, каб часам не быць сведкамі на судовай справе, але калі на вуліцы паб'юць нашага сына, брата ці мужа, мы абураемся на тых, якія глядзелі на гэта і не рэагавалі, якія не выступілі ў абароне яго. На жаль, яшчэ і так бывае, што глохнуць людзі, калі іх моляць аб дапамозе, а калі ў іх такое здарыцца, абураюцца на людскую абыякавасць, на людскую «знечуліцу».

*МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ*

## Каб здаровымі былі

Міхалоўскі цэнтр здароўя «лопае па швах». Проста зрабілася тут надта цесна, а асабліва пасля таго, як насельніцтва вёскі атрымала бясплатную лекарскую апеку. Зараз працуе тут 5 лекараў. Пяць медсясцёр, дэнтыст і дзве акушэркі. Кожны другі дзень прыязджае гінеколаг. Не толькі пяццю з палавай тысячамі насельніцтва апякуецца медслужба цэнтра здароўя, але і моладзю з сямі школ.

Пры цэнтры здароўя ёсць радзільная палата. А ці яна абавязкова патрэбна? — задаюць пытанні не толькі тутэйшыя лекары. Добра, калі ёсць, але справа ў тым, што яна надта прымітыўная як на сучасныя магчымасці медыцыны. Пры мінімальна цяжэйшых родах парадзіху трэба адпраўляць у бальніцу ў Беласток. Гэта толькі ўскладняе справу. А нашто тое, калі тут на месцы ёсць радыётэлефон, пры дапамозе якога можна выклікаць хуткую дапамогу і за 20 мінут адвезці ў Беласток. Зрэшты, тутэйшыя жанчыны таксама больш ахвотна радзілі б у бальніцы, чымсьці ў тутэйшай радзільнай палаце.

І яшчэ адна справа. Гаспадары часта прыходзяць да лекара ў крайніх выпадках, гэта значыць тады, калі хвароба зацягнулася і пацыента трэба накіраваць у бальніцу. А вядома, што калі б хворы прыйшоў раней, можна было б даную хваробу вылячыць хутчэй і не трэба было б тады класціся ў бальніцу.

У гэтым годзе мае быць праведзен рамонт будынку цэнтра здароўя. Думаем, што пасля рамонту як лекары, так і пацыенты атрымаюць лепшыя ўмовы.

(ак)



*Лекар — педыятр Уладзіслаў Харытанюк абследуе пацыента.*
*Фота А. КАРПЮКА*

## МЕЛІЯРАЦЫЯ НА ДУБРОЎШЧЫНЕ

Каб паспяхова выкарыстаць прадукцыйныя здольнасці зямлі, на значных плошчах сенажацяў, пасбішч і палёў неабходная меліярацыя. Чакае яе ў нашым ваяводстве яшчэ 420 тысяч гектараў.

У Дуброўскім павеце дагэтуль меліяравана і загаспадаравана больш 8 тысяч гектараў пасбішч і сенажацяў. Меліярацыі патрабуе яшчэ сама менш 20 тысяч гектараў багністых лугоў у даліне ракі Бебжы.

Ужо цяпер меліярацыя дала вялікія эфекты ў аб'ектах Зыскоўшчына і Валкушанка. Накосы сена павысіліся тут у шэсць разоў і выносяць 72 цэнтнеры з гектара. Праўда, прымяняюцца тут і значна вышэйшыя, чымсьці раней, колькасці мінеральных угнаенняў.

Напэўна зацікавіць факт, што кошты праведзенай тут меліярацыі вярнуліся ўжо праз 4,5 гады. Продаж малака павялічыўся з 27 літраў да 167 літраў на кожны гектар так званых зялёных ужыткаў. Колькасць пагалоўя быдла ўзрасла на 31%.

Як бачым, вышэй прыведзеныя факты з'яўляюцца яркім доказам таго, што меліярацыя адкрывае перад вёскай шырокую дарогу да прагрэсу. (ця)

# ТРЫБУНА чытачоў

### УДАНАЯ ВЕЧАРЫНА

13 студзеня г.г. гарцэры з падставовай школы ў Дубяжыне прыехалі ў Грэдалі з мастацкім выступленнем. Канцэрт адбыўся вечарам у мясцовай святліцы. У праграме была беларуская сцэнка («Дзесяць гектараў»), песні і скетчы. Святліца была запоўнена гледачамі. Прыйшла перш за ўсё моладзь. Усе горача апладзіравалі самадзейнікам з Дубяжына. Дык няпраўда, што ў век тэлевізіі аматарскі калектыў адыходзіць на далейшы план. Культура жывога слова мае сваіх шматлікіх прыхільнікаў у кожным асяроддзі.

*Наглядальнік*

## ПАРНАСік

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### ЯКІЙ ТЫ А...

Скажы для мэнэ  
Якій ты е.  
Я знаю я знаю  
як называешся  
і дужо, многого  
про тэбэ знаю.  
Але  
як збэру  
усё разом  
до купы  
то здаецце  
так мало  
просто зусім ныць.  
Знаю  
шчо маеш очы  
такіе голубые  
шчо трудно  
до чогось прыроўняты  
вочы  
як небо у дэнь  
бэзхмурны летні.  
Твоі очы  
вельмі ўважно дывятся  
як до тэбэ говору.  
Знаю  
што маеш волосы  
чорны чорны як вутоль  
і у фалях воны  
як морэ  
як вода  
ў час сільной буры.  
Помэнтаю ўсё  
помэнтаю очы  
знаю лінію носа  
і круй твоіх губ.  
Але зложыты тэбэ  
не могу  
хоч высіляю волю  
і свою выобразню.  
Зостаеш у часцях  
як невыкончаны образ  
і дывішся на мэнэ.  
Але так напраўду  
то я нэ знаю  
якій ты е  
А можэ  
і ты сам  
сёго нэ знаеш.

*Наташа*

## Сардэчныя тайны

*Дарагое «Сэрцайка»!*

Я ўжо не маладая. Мне 38 год, а муж за мяне на 6 гадоў старэйшы. Дзеці ўжо амаль дарослыя. Жывем мы ў невялікім горадзе. Маем тут знаёмых, з якімі даўно ўжо сябруем. Калі дзеці былі малыя, дык нячаста даводзілася нам бываць у іх на розных урачыстасцях. Але ўжо цяпер няма ніякіх перашкод, часта бываем у кампаніі. Было б усё добра, толькі вось паводзіны майго мужа ў кампаніі мне не падабаюцца. Псуюць яны мне настрой, ды і не толькі мне. Калісьці бывала так рэдка, але цяпер штораз часцей. Вось у чым справа: муж, як вып'е, пачынае абымаць і цалаваць іншых жанчын. Мною не цікавіцца. Гэта мяне нервуе. Стараюся я гэтага па сабе не паказваць, але не заўсёды мне гэта ўдаецца. Калі вернемся дамоў, дык я мужу адразу «на гарача» ўсё выгарну, што аб ім думаю.

І кожная такая імпрэза канчаецца ў нас сваркай. Мне ўжо нават не вельмі хочацца куды ісці, хоць люблю я кампанію. Знаёмыя паспелі прызвычаіцца да яго манер, але бывае, што ў кампаніі знойдуцца людзі нам не знаёмыя. І тады бывае яшчэ больш прыкра. Так было апошнім разам, калі знаёмыя запрасілі нас на свята. Была там маладая пара, мы іх не ведалі. Мой муж зараз жа «заапекаваўся» жонкай незнаёмага. Але тут абурыўся яе муж, і яны хутка пайшлі дамоў. І тут не толькі мне, але і гасцям, і гаспадарам было непрыемна. Муж аднак віны сваёй не бачыць. Кажа, што ў кампаніі неабавязкова мусіць муж трымацца жончынай спадніцы. А што ты, «Сэрцайка», на гэта?

*Валя з Б.*

*Валя!* Здзіўляюць мяне паводзіны не толькі твайго мужа, але і жанчын, якія на гэта пазваляюць! Ніводна з іх не звярнула яму ўвагі, а наадварот, яны ўжо прызвычаіліся да яго паводзін. Па-мойму, у кампаніі можна, а нават трэба і пажартаваць, і пасмяяцца, і сусуседцы слоўца мілае кінуць, не забываючы аднак аб жонцы. Аднак усяго ў меру. Добра робіш, што стараешся прамаўчаць і нічога не паказаць па сабе ў кампаніі. Бо вельмі брыдка, калі тут даходзіць да «парахункаў» паміж мужам і жонкай. І думаю, было б яшчэ лепш, калі б ты не выгортвала, як пішаш, грахоў мужавых «на гарача», але паўстрымалася да наступнага дня. Размова ў менш нервовай атмасферы дала б лепшыя вынікі.

*«Сэрцайка»*

### ТРАДЫЦЫЯ ЦІ ДУРНОТА?

Шматлікія ў нас калядныя і навагоднія традыцыі: песні, звёзды, батлейкі, гэрады, ёлкі, кулікі і іншыя звычаі і гульні. І нічога ў гэтым дрэннага. Моладзь у гэты час мае шмат свабоднага часу і добра, калі яна культурна гуляе. Але ў Бельску ўсё шырэй распаўсюджваецца дрэнны звычай: у навагоднюю ноч мазаць шыбы. Кожная гаспадыня перад калядамі старанна мые шыбы. Можна тады ўявіць яе роспач, калі ў першы дзень новага года ўбачыць на сваіх вокнах паскудныя малюнкі, бы на белых сценах у вядомых публічных месцах. Пара даць рашучы адпор тым паганцам, якія шыраць гэтую дурную «традыцыю».

*НЕСТАР ПЕРАВОЙ*

### НАШЫ ПРЫПЫНКІ

Прыпынак ПКС у Гайнаўцы гэта адзін з важнейшых прыпынкаў. Не маю прэтэнзіі да пачакальні, хоць і яна прыдалася б, але туалет... Не адзін бы хацеў карыстацца ім, але як? Прыбіральня даведзена да таго, што не ступіш у яе. Сорамна глядзець у гэты куток.

Едучы з Гайнаўкі ў Бельск шашой, бачым пачакальні ПКС. Вельмі прыемна глядзець на іх едучы. А калі спынішся, дык вачам не верыш. На сценах розныя глупствы нашмараваны, а ў сярэдзіне вандалізм яшчэ горшы. Гэтыя пачакальні ператвараюцца ў прыбіральні самага дрэннага гатунку.

Што скажа турыст пра вёску і тутэйшых людзей, калі зойдзе ў такую «пачакальню»? Нядарам існуе пагаворка: як цябе бачаць, так цябе пішуць. А справа часам выглядае так, што вінаваціць усю вёску няма патрэбы: хопіць адной казы, каб цэлае стада запаскудзіла. І справа ў тым, каб такім казам не даваць ходу. Яны павінны адчуць агіднасць сваіх учынкаў.

*МІКАЛАЙ МАРОЗ*

*Школа ў Арэшкаве Гайнаўскага павету.*
Фота Я. Цялушэцкага

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

■ 4. І. 1973 г. у Чыжах Гайнаўскага павету згарэў дах клуні, а таксама збожжа і сена Андрэя Тыханюка. Страты каля 10 000 зл.

■ 7. І. 1973 г. у Крыўцы Гайнаўскага павету згарэла клуня Аляксандра Занерскага. Страты каля 40 000 зл.

■ 9. І. 1973 г. у Градочне Гайнаўскага павету згарэлі клуня і свіран Аляксандра Іванюка. Страты каля 50 000 зл.

■ 9. І. 1973 г. каля вёскі Выгода Гайнаўскага павету Ян Сіткоўскі (34 гады) з Бельска, едучы машынай, падбіў Андрэя Сакоўскага (6 год) з Выгоды, які з-за стаячага аўтобуса раптоўна выскачыў на вуліцу. Дзіця памерла ў шпіталі.

■ 13. І. 1973 г. у Гайнаўцы на Бельскай вуліцы Мікалай Нікіцін, які ехаў самаходам, урэзаўся ў прыдарожнае дрэва. У выніку гэтага самаход пашкоджаны амаль на 30 000 зл., а вадзіцель і двое грузчыкаў паранены.

## НАША ПОШТА

*Нестар Перавой, Бельск.* Перакладу Байкі Крылова не выкарыстаем.

*Васіль Асеннік, Бельск.* Вершы «Наша вёска» і «Зіма» змесцім у «Парнасіку».

*Ірэна Баравік, Мора.* Верш «У Новым годзе» атрымалі. Але ў нас цыкл прадукцыйны доўгі (3 тыдні), і таму ён не мог трапіць у навагодні нумар (прыйшоў, значыць, позна).

*Георгій Баена, Бельск.* Верш «Веру» надрукуем.

*Міхась Красоўскі, Малынка.* Ой, дзядзька, дзядзька, вы ўсё жартуеце. Але здаецца, «Сусед памог» можа ісці ў друк. Вы таксама павінны мець на ўвазе дзяцей, якія нас чытаюць і на якія вы спасылаецеся ў сваім пісьме, лаючы нас за тэксты на мясцовай гутарцы.

---

Цвёрды спірт загарэўся блакітным агнём, вырваўшы з цемры бледныя твары трох мужчын. Мартынаў усміхнуўся і сказаў:

— Дрымучы лес. Надзейны.

— Так, — азваўся Альтэнкірх. «Яму не трэба ламаць сабе галавы, — падумаў ён. — Абодва яны паводзяць сябе больш упэўнена, чым я. Яны нешта робяць, а я, іхні камандзір, дрыжу, як восеньскі ліст ад страху». — Зварыце каву моцную.

— Будзе зроблена, — сказаў Будэр.

Мала-памалу завялася ціхая, вялая гутарка. Прыгадалі некалькі эпізодаў палёту і прызямлення, пахвалілі экіпаж самалёта і пачалі выказваць здагадкі наконт таго, як далёка яны знаходзяцца ад таго ўскрайку лесу, дзе іх чакае обер-лейтэнант Вайтхазе. Альтэнкірх паднёс карту да святла спіртоўкі і паспрабаваў вызначыць каардынаты таго месца, у якім яны апынуліся, аднак тое нямногае, што яму ўдалося разгледзець у навакольнай цемры, было недастаткова для арыенціроўкі. Узлесак, які мяжуецца з лугам, авальны, бярозавы гай, плаўны пераход мясцовасці ў багністую даліну ручая — усё гэта часта паўтараецца на карце, такія мясціны на кожным кроку сустракаюцца ў лясах на поўнач ад Віцебска і Мінска.

Папілі кавы, з'елі па булачцы з маслам і павідлам. Паласавацца булачкамі было ідэяй Будэра — яму хацелася паесці па-чалавечы.

— Кансервы ў нас яшчэ праз горла назад палезуць, — сказаў ён.

«Усё ж добра, што я ўзяў з сабой Будэра, — падумаў Альтэнкірх. Чалавек ён спакойны, разважлівы, практычны. Нервы яго не так хутка здадуць, ён не цураецца ніякай работы».

Альтэнкірх зноў палез па сваю карту. Не прыйшоўшы да ніякага вываду, ён загадаў Мартынаву збірацца ў дарогу. Мартынаў павінен быў нейкім чынам разведаць, дзе яны знаходзяцца. Магчыма, ён выйдзе на які-небудзь гасцінец або натрапіць на дарожны знак з назвай населенага пункта, ці ўбачыць якую-небудзь вёску.

— Будзьце асцярожныя! — папярэдзіў яго Альтэнкірх.

— Добра, — сказаў Мартынаў і, перакінуўшы цераз плячо аўтамат, развітальна дакрануўся да фуражкі і дадаў: — Вярнуся як мага хутчэй, самае позняе — вечарам.

Будэр дапытліва глянуў Мартынаву ў твар — хацеў убачыць якую-небудзь прыкмету таго, што творыцца на душы ў рускага, але нічога не ўбачыў.

— А калі ён выдасць нас? — запытаў Будэр, як толькі Мартынаў знік за дрэвамі.

Альтэнкірх адказаў, што для такога падазрэння няма ніякіх падстаў. Эсэсаўцы добра прасеялі ўласаўцаў, праз іхнія сіты не пройдзе ніякі здраднік, а калі пасылаюць з такім адказным заданнем, дык тут ужо сумнявацца зусім няма чаго.

— Але аднойчы ён ужо здрадзіў, — запярэчыў Будэр.

— Глупства. Ён заўсёды быў ворагам бальшавікоў і таму няважна белы ён скрозь ці крышачку шэранькі.

— Будзем спадзявацца на лепшае, — адказаў Будэр.

*(Працяг будзе)*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Wielka miłość" (franc.), 6—7. „Kochany drapieżnik" (radz.), 8—9. „Krzyżacy" (polski), 10—11.

**Нараўка**
„Gangsterzy i filantropi" (USA), „Ostatnia gra Karina" (radz.), 7—11.

**Нарва**
„Kupujemy wóz strażacki" (NRD), „Testament Agi" (węgierski'), 7—11.

**Чыжы**
„Agent Nr 1" (polski), „Jaskółki" (węgierski), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**
„Uciec jak najbliżej" (polski), „Krzyżacy" (polski), 7—11.

**Арэшкава**
„Przygody misia Yogi" (USA), „Przystań" (polski), 10—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Oficerowie" (radz.), „Umrzeć z miłości" (franc.), 7—11.

**Орля**
„Pamiętnik szalonej gospodyni" (USA), „Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 7—11.

**Райск**
„Wujaszek Wania" (radz.), „Wojenka, wojenka" (rumuński), 7—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

„Zwariowałeś Toni" (czeski), 6—7. „Małżeństwo roku II" (rumuński), 8—9. „Ballada o Cable u Hogue u" (USA), 10—11.

**Шудзялава**
„Gangsterzy i filantropi" (polski), „Pamiętnik szalonej gospodyni" (USA), 7—11.

**Янаў**
„Pilot helikoptera" (rumuński), 7—11.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Zwiadowca" (radz.), 6—7. „Gniewna podróż" (bułg.), 8—9. „Zaproszona" (franc.), 10—11.

**Мельнік**
„Ostatni watażka" (bułg.), 6—7. „Małżeństwo roku II" (rumuński), 8—9. „Ballada o Cable u Hogue u" (USA). 10—11.

**Мілейчыцы**
„Jutro na orbitę" (radz.), 6—7. „Znicz olimpijski" (polski), 8—9. „Niech bestia zdycha" (franc.), 10—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Szczęście Anny" (czeski), „Lekcja odwagi" (czeski), 7—11.

**Новы Двор**
„Zbrodnia i kara" (radz.), „Trzy kroki po ziemi" (polski), 7—11.

Ніва

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1, Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch", Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7.410 K-1

